ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Кніга ноша

№ 12 снежань, 2011

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"


## ■ АЎТОГРАФ

# Уладзімір СІЎЧЫКАЎ: «Трэба ўмець быць удзячнымі»

**– Уладзімір Мікалаевіч, Вы прапануеце ўшанаваць заснавальніка Жодзіна князя Багуслава Радзівіла бронзавым конным помнікам, стварылі своеасаблівы помнік князю Багуславу Радзівілу – выдалі ягоную «Аўтабіяграфію» і ўвогуле вельмі шмат робіце для праслаўлення сваёй малой радзімы. Калі апошні раз наведвалі родны горад, якія змены ў ім убачылі? Ці ёсць надзея, што Жодзіна некалі займее сваю прыгожую гістарычную назву?**

– У родным горадзе стараюся бываць як мага часцей, тым болей што гэта недалёка, з паўсотні кіламетраў. Акрамя сваякоў тым візітам найбольш радуюцца мастакі, музейшчыцы і бібліятэкаркі, можа, і таму, што прывожу ім торбы кніжак.

Савецкі міф пра маладосць Жодзіна трымаецца на двух кітах: на Беларускім (цікава, чаму не Жодзінскім?) аўтамабільным заводзе і на сям'і Купрыянавых. Папраўдзе, гарадскі пасёлак Жодзіна атрымаў статус горада абласнога падпарадкавання толькі ў 1963 годзе, але на самай справе яму не сорак гадоў, а ў дзевяць разоў болей, бо ўзрост любога паселішча прынята лічыць ад першай пісьмовай згадкі пра яго. Мой родны горад меў найменні Жодынь, Жодзін, Жодзіна Слабада, Багуслаў Поле, а некаторыя гісторыкі кажуць і пра Багуслаў-Поліс (Багуславаў горад).

У пісьмовых крыніцах Жодзіна згадваецца ў 1643 годзе – незадоўга перад гэтым князь Багуслаў Радзівіл прыняў рашэнне пра пабудову новага горада, які ў гонар свайго гаспадара дзякуючы дачцэ Людвіцы Караліне атрымаў адну з назваў.



Актуалізацыя старажытнай гісторыі Жодзіна – справа не хуткая і не простая. Паставіць манумент заснавальніку горада – спосаб радыкальны. Ад яго, як ад пункту адліку, можна будзе весці гаворку і пра перайменаванне.

Я думаю, Багуслаў Радзівіл яшчэ будзе ацэнены гісторыяй і нашчадкамі. Ёсць факты, якія гавораць пра Багуслава як пра дзяржаўнага і вайсковага дзеяча ВКЛ, збіральніка спрадвечна беларускіх земляў, мастака, мецэната, знаўцу мастацтва. Так, пасля смерці бацькі Багуслаў стаў уладальнікам Слуцкага і Капыльскага княстваў, у выніку шлюбу са сваёй стрыечнай пляменніцай Ганнай Марыяй атрымаў Кейданы, Дубінкі, Біржы, Заблудаў, Койданава, Беліцу, трымаў Мазырскае, Бранскае, Барскае староствы. У Слуцку сабраў архіў, багатую бібліятэку, дзе зберагаліся каштоўныя рукапісы, у тым ліку знакаміты Радзівілаўскі летапіс. Быў чалавекам надзвычай рознабаковым: падтрымліваў школы і пісаў рэлігійныя гімны, збіраў творы мастацтва і сам рабіў замалёўкі з панарамамі беларускіх гарадоў, эскізы і архітэктурныя праекты…

Для мяне асабіста аднаго факту заснавання Багуславам Радзівілам майго роднага горада больш чым дастаткова для ўсталявання помніка.

(Працяг на стар. 7) ➲

### Даведка «Кніганошы»:

Уладзімір Сіўчыкаў – перакладчык, празаік, паэт, драматург, мастак, выдавец. Аўтар кніг прозы «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Бювар», «Высакосны год», «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным), шматлікіх казак, п'ес і сцэнарыяў. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА








**Багдановіч Максім. У 3 кнігах. Кніга 1. Раманс. Кн. 2. Пагоня. Кніга 3. Слуцкія ткачыхі. На 10 мовах. Уклад. У. Гілепа, Т. Шэлягові; уступнае слова П. Латушкі; прадм. А. Бутэвіча; мастак Ю. Хілько. – Мінск: «Беларускі фонд культуры», 2011.**

Выданне складаецца з трох кніг, прысвечаных вершам М. Багдановіча «Раманс», «Пагоня», «Слуцкія ткачыхі» на дзесяці мовах, праілюстраванае арыгінальнымі працамі мастака Юрыя Хілько. Дапамогу ў арганізацыі выдання аказалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Літаратурны музей Максіма Багдановіча, фінансавую падтрымку – прыватнае прадпрыемства «Неф-праект» (в. Гальшаны, Беларусь). Выданне прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча.




**Радзівіл Францішка Уршуля. Нясвіжскі альбом = Album Nieświeski: зборнік любоўнай лірыкі. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 141 с. – Паралельна на польскай і беларускай мовах.**

Вершы княгіні адлюстроўваюць пачуццё кахання ў ягоным развіцці: яно змяняецца пад уплывам часу, рэальных падзей, адбываецца эвалюцыя самой гераіні, яе ўнутраны свет узбагачаецца новым досведам. Нясвіжская Сафо раскрыла ў мастацкіх вобразах свет складаных жаночых пачуццяў і перажыванняў. Нядзіўна, што яе глыбока інтымныя вершы і праз стагоддзі ўзрушваюць і кранаюць чытачоў.




**Міхно Вера. Крык спуджанай птушкі: вершы. Прадм. В.Гардзея. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 116 с.**

Гэта кніга пра пачуцці сталай жанчыны, як радасныя, так і шчымліва-балючыя, пра яе стаўленне да жыцця, выбар яго асноўных каштоўнасцей і бачанне ёю будучыні.




**Храптовіч-Буцянёва Вольга Аляксандраўна. Злом (1939–1942): успаміны. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 280 с.**

Кніга ўспамінаў графіні Храптовіч-Буцянёвай – з'ява ўнікальная. Як вядома, род Храптовічаў на працягу стагоддзяў адыгрываў адну з вызначальных роляў у Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай і расійскай імперыі. Але фінал атрымаўся трагічны. У выніку бальшавіцкай навалы 1939 года палац і бібліятэка ў родавым маёнтку Шчорсы былі разрабаваны і знішчаны, а ўладальнікі сядзібы апынуліся хто ў турме, хто ў далёкім выгнанні. Менавіта пра гэта балючая кніга ўспамінаў «Злом».




**Касцюкевіч Павел. Зборная РБ па негалоўных відах спорту: апавяданні. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 138 с.**

У кнізе сабраныя апавяданні, якія праліваюць святло на неасветленае ў афіцыйных СМІ жыццё шараговых беларусаў: мінскіх кухарак-прарочыц, смаргонскіх кантрабандыстак і гарадзенскіх спартоўцаў-алкаголікаў. Часам рэчаіснасць паварочваецца сумным, часам – абсурдным, а найчасцей – камедыйным бокам. Кніга названая паводле апавядання, у якім задзейнічаная напаўміфічная каманда, што адначасова гуляе ў падводны хакей, пола на сланах і скокае на вярблюдзе з раўбіцкіх трамплінаў.




**Сіўко Франц. Выспы: проза. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 280 с.**

У новую кнігу вядомага празаіка Франца Сіўко ўвайшлі аповесць «Тыдзень вялікай коткі», «Просты-просты раман», апавяданні «З Індыі з любоўю», «Духі Нізіннае Еўропы» і «Тры растанні», а таксама дзевяць эсэ, сярод якіх вылучаюцца «Выспа Міжрэчча», «Efter paradise/Выспа Готланд» і «Сволач паводле Брэма».




**Вішнёў Зміцер. Шоргат жукоў: тэксты – Мінск: Галіяфы, 2011. – 92 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У новую кнігу Змітра Вішнёва ўвайшлі тэксты, напісаныя за апошнія некалькі гадоў (2005–2011). Большасць змешчаных у выданні твораў друкавалася ў перыядычным друку: «Новы час», «Дзеяслоў», «Тэксты». «Шоргат жукоў» – гэта чарговая спроба аўтара ўпрыгожыць навакольную прастору.




**Мінскевіч Серж. Сад Замкнёных Гор: проза. – Мінск: Галіяфы, 2011. – 264 с. – (Калекцыя беларускай фантастыкі; Вып. 1).**

У кнігу ўвайшлі выбраныя творы беларускага фантаста Сержа Мінскевіча. Раман «Сад Замкненых Гор», які даў назву кнізе, складаецца з дзвюх частак – аднайменнага квазі-фэнтэзі і касмічнага фэнтэзі «Забаўкі для малодшых», у якіх, безумоўна, захоўваецца стрыжань прыгодніцкага рамана з элементамі баявой фантастыкі. У першай частцы супрацьпастаўлены асоба і закрытая прастора, абмежаванне ў жаданнях і дзеяннях; у другой – дыяметральна супрацьлеглае: асоба і бязмежжа, неабмежаванасць у жа-

даннях і дзеяннях. «Сад Замкнёных Гор» – твор, пабудаваны на змяшэнні жанраў з выкарыстаннем інтэртэкстуальнасці, алюзійнасці, гульні з клішэ, парадыйнасці, пазіцыянавання з кібер-панкавым пісьмом і прыпавесцю. Аповесць «Гіперновы рабінзон» па-новаму раскрывае вядомую з часоў Даніэля Дэфо тэму. Апавяданні схіляюцца да сайнс-фікшн навэлаў з даволі нечаканымі развязкамі.




**Голушко Павел. Шведский дневник, или Записки путешествующего поэта: поэзия. – Минск: Голиафы, 2011. – 162 с.**

Наш сучаснік, літаратар Павел Галушка – аўтар кніг паэзіі і прозы «Одиночество» (2008), «Когда я вернусь» (2009), «Уходя за горизонт» (2009) і адзін з самых чытаных паэтаў рускамоўнага інтэрнэту. Павел Галушка нарадзіўся ў Мінску, але няпросты жыццёвы шлях прывёў яго ў Стакгольм, дзе ён цяпер жыве. Новая кніга паэта насычаная ўражаннямі ад Швецыі, лёсаў людзей, судакранання з найноўшым і нязгасным мастацтвам.




**Амб'ёрнсэн Інгвар. 23-я палата: раман. Пер. з нарв. Лідыі Ёхансэн. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 192 с. – (Littera scripta)**

Напаўбіяграфічны раман сучаснага нарвежскага пісьменніка Інгвара Амб'ёрнсэна (нар. 1956 г.) крытычна разглядае нарвежскую сістэму догляду псіхічна хворых. Творчасць аўтара, у якой ён паўстае нязменным прыхільнікам «маргіналаў», людзей, вымушаных жыць на мяжы грамадства, ацэненая шэрагам літаратурных прэміяў, у тым ліку найбольш значнай у Нарвегіі прэміяй Брагі (1995). Фільм «Элінг», зняты паводле яго рамана «Кроўныя браты», быў выстаўлены ў 2001 г. на прэмію Оскар як найлепшая замежная кінастужка.




**Баторын Фелікс. Чорны год: мастацка-дакументальная аповесць. – Мінск: «Чатыры чвэрці», 2011. – 280 с., [2] с. іл. (серыя «Дзеці вайны»).**

Аповесць «Чорны год» знаёміць чытача з рэальнымі падзеямі, але расказвае пра іх мастацкім словам, што робіць гэты твор даступным тым, хто не падрыхтаваны для ўспрымання сухой мовы дакумента. Падзеі, пра якія апавядае аўтар, сын аднаго з галоўных герояў аповесці, адбываліся ў чэрвені-снежні 1941 года ў Беларусі. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны, трапіўшы ў яе бязлітасны калаўрот, героі аповесці спазналі жах нямецкіх бамбадзіровак і абстрэлаў, горыч і нягоды акружэння і палону. У жудасных умовах Мінскага гета яны не страцілі чалавечай годнасці і волі да барацьбы, стварылі падпольную групу супраціву і здолелі вырвацца за калючы дрот, каб у партызанскіх лясах змагацца з варожаю навалаю.




**Сіпакоў Янка. Малады вецер: мужчынскія апавяданні. – Мінск: «Чатыры чвэрці», 2011. – 224 с.**

Ён і Яна. Мужчына і жанчына. Ад таго, як складваюцца іх адносіны, залежыць іхняе жыццё. І ўвогуле ўсё жыццё на планеце. Каханне! Гэта найвышэйшае шчасце і насалода. Але ж часам здараецца так, што яно прыносіць з сабою і цяжкія, амаль невыносныя пакуты. І якая розніца тады, хто пакутуе – мужчына ці жанчына. Бо нічога на свеце няма больш балючага і больш жаданага, чым радасці і пакуты кахання. Пра ўсё гэта новая кніга Янкі Сіпакова, яго шчырыя мужчынскія апавяданні на гэтую даволі далікатную тэму.




**Травень Кастусь. Брыгадны генерал: апавяданні. – Вільня: «Наша будучыня», 2011. – 208 с.**

У нізцы апавяданняў кнігі «Брыгадны генерал» падзеі ахопліваюць перыяд з 90-х гадоў, калі на змену калектыўнай свядомасці ў грамадства прыйшлі ідэі ўласнага ўзбагачэння, уласнай якасці жыцця, разбураны папярэднія алгарытмы існавання. Адбываецца перазагрузка свядомасці актыўных людзей. Тыя, хто не здольны прыстасавацца да новага часу, вымушаны ў скрусе пакутліва дажываць сваё жыццё.




**Беларус 2011. Літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа. – Нью-Ёрк: Выдавецтва «Беларус», 2011. – 240 с.**

Альманах-штогадовік выдае ад жніўня 2007 г. нью-ёркскі грамадскі дзеяч Марат Клакоцкі, які ад 2002 да 2010 г. рэдагаваў галоўную газету суайчыннікаў замежжа – «Беларус». Выйшаў пяты нумар. У свежым нумары друкуюцца вершы Лявона Баравога (ЗША), Змітра Давыдзенкі (Расія), Іны Снарскай (Украіна), Сержука Сокалава-Воюша (ЗША), Юрася Шамецькі (Канада), апавяданні Віталя Воранава (Польшча), Міхася Скібы (Бельгія), Алеся Тарановіча (Нямеччына), Макса Шчура (Чэхія), пераклады Якуба Лапаткі (Фінляндыя) і Віктара Кавалеўскага (Аўстралія) ды інш.




**Усціновіч Юры. Майстра Рукша. Казка па матывах беларускай міфалогіі. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 28 с.**

Казанне-казачка пра майстра слыннага Рукшу і пра тое, як змайстраваў ён коніка незвычайнага Грыўку. Выданне шыкоўна праілюстравана мастаком Іванам Івановым, усе старонкі ў кнізе – каляровыя. Юры Усціновіч – полацкі гісторык, выкладчык Полацкага ўніверсітэта, аўтар кнігі «Яська і конік ягоны Грыўка». Кніга «Майстра Рукша», якая з'яўляецца такою сабе перадгісторыяй «Яські...», таксама адрасаваная маленькім чытачам.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Янсан Тувэ. Капялюш чарадзея: казка. Пераклад з шведскай Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. – Мінск: Зміцер Колас, 2011. – 148 с.: іл.**

Казачная аповесць «Капялюш чарадзея» – трэцяя з серыі кніг, прысвечаных мумітролям, чароўным і забаўным істотам, прыдуманым, апісаным і намаляваным выдатнай фінскай пісьменніцай і мастачкай Тувэ Янсан. Чароўная і таямнічая знаходка Сніфа – чорны цыліндр Чарадзея – прыносіць у Мімідол новыя прыгоды, дзівосы і небяспеку. Тое, што паляжыць нейкі час у цыліндры, ператвараецца ў… ніколі нельга ведаць загадзя, у што! У каго ператварыўся Мумітроль, які схаваўся пад капелюшом, і мурашыны леў, ягога завабілі туды падманам?.. Пра гэта юны чытач зможа даведацца з кнігі…




**Старынчык Алег. Казачкі, баечкі, вершыкі для маленькіх і дарослых: вершы. – Мінск: ТАА «Мэджык», 2011. – 152 с., іл.**

Вершы, казкі і байкі Алега Старынчыка адрасаваныя як дзецям, так і дарослым. Яны поўныя гумару, радасці і пяшчоты, любові да роднай зямлі, усяго навакольнага свету. Гэта байкі пра нас саміх. Нават сатыра ў творах аўтара не крыўдзіць, бо яны напісаныя з вялікай павагай і дабрынёй.

Дзе ты ходзіш, Дзед Мароз,
Дзе марозіш ты свой нос?
Я стаю тут самы першы,
Пра цябе чытаю вершы,
Не падглядваю ў паперку.
Мне хутчэй нясі цукерку!




**Панізьнік Сяргей. Літары ў расе: зборнік вершаў для дзяцей. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2011. – 72 с.: іл.**

У кнігу ўвайшлі вершы для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, напісаныя аўтарам у розныя гады. Кніга праілюстраваная фотаздымкамі і малюнкамі С. Панізьніка.

Пасля дажджу смяецца зёлка,
Бо навальніца не грыміць.
Над галавой вісіць вясёлка
І так лагодна просіць піць…

## ■ ІМПРЭЗЫ

# Памяці Таццяны САПАЧ: «Тутэйшая», жывая назаўсёды

***З успамінаў і чытання вершаў паэткі Таццяны Сапач распачаўся цыкл не звязаных між сабой сустрэч аб розных людзях, што належаць да літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя», якому сёлета 25 гадоў.***

«Гэта штосьці кшталту жывой анталогіі і ўспамінаў пра «мёртвыя часы», што засталіся толькі ў памяці. Але засталася і паэзія як штосьці жывое і важнае. Мне здаецца, што пакаленне «Тутэйшых», пры тым, што яно бунтарскае пакаленне, – адно з самых непачутых і недаацэненых пакаленняў сёння, можа быць, таму, што яго прадстаўнікі не рыхтавалі сабе п'едэсталаў і месцаў у гісторыі літаратуры, яны займаліся трошачкі іншымі рэчамі, – адкрыў сумную імпрэзу-ўспамін, што прайшла ў кнігарні «логвінаЎ», Ігар Бабкоў. – Гэты цыкл мы вырашылі распачаць з самых важных, з тых, каго ўжо няма з намі. І Таццяна Сапач – геніяльная паэтка, сябра, якая трагічна загінула 27 снежня мінулага года ў аўтакатастрофе, сёння мусіць быць з намі. Таццяна Сапач – можа быць, адна з такіх загадкавых паэтак, і



ў пэўным сэнсе гэта той нерв і паэтычны сакрэт пакалення «Тутэйшых».

Славамір Адамовіч прыгадаў часы, калі яны толькі пачыналі гуртавацца (другая палова 80-х): «Тады мы таксама жылі пад рэжымам, але пад рэжымам імперыі, а за свабоду, у параўнанні з тымі часамі, яшчэ больш даводзіцца ваяваць у нашыя часы». І прачытаў свае ўлюбёныя вершы Таццяны Сапач з яе першага зборніка, выдадзенага ў 1991. «Дваццаць гадоў гэтаму зборнічку, называецца «Восень». Але выдадзены ён быццам учора, гэта паэзія для сапраўдных чытачоў і аўтараў, яна жыве і, спадзяюся, будзе жыць у нашай літаратуры яшчэ доўга», – адзначыў паэт.

Вядомая выканаўца бардаўскіх песень Кася Камоцкая, лідар легендарнага «Новага неба», падкрэсліла: «Таццяна пісала такой мовай, што яе вершы хацелася спяваць. На яе мове хацелася размаўляць нават не беларусу». І праспявала «Дзяцей чорнага горада» і яшчэ некалькі знакамітых песень на вершы Таццяны Сапач.

Прыгадалі часы знаёмства з Таццяной Сапач былы аднакурснік, рэдактар часопіса «Дзеяслоў» і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і паэт, сябра сям'і Сяргей Сыс, які таксама пэўны час жыў у Гомелі, а таксама паэт і мовазнавец Юрась Пацюпа.

А пры канцы прысутныя паглядзелі адно з нешматлікіх відэа, дзе Таццяна чытае вершы сваіх сяброў перад студэнтамі.

**Зарына Кандрацьева**
**для budzma.org**




**Дзержужинский Вадим. Забытая Беларусь. – Минск: «Харвест», 2011. – 496 с.: ил. – (Неизвестная история)**

Гэта працяг кнігі «Тайны беларуской истории», што выйшла чатырма выданнямі ў 2010–2011 гг. У ёй выкрываюцца шматлікія выдумкі, міфы і памылковыя погляды на беларускае мінулае, якія доўгі час укаранялі афіцыйныя ўстановы, гісторыкі і публіцысты царскай імперыі і СССР. Нямала месца ў кнізе нададзена «белым плямам» у гісторыі Беларусі – таму, што хавалася ў савецкія часы з ідэалагічных прычынаў. Кніга разлічаная на шырокае кола чытачоў.




**Матвейчык Дзмітрый. Выгнаныя з роднага краю: Паслялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады.) – Мінск: Лімарыус, 2011. – 200 с.: іл.**

Манаграфія прысвечаная адной з малавядомых старонак гісторыі грамадска-палітычнага руху на землях Беларусі і Літвы ў XIX ст. – эміграцыі ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. На падставе шырокага кола разнастайных крыніц даследуецца вялікая колькасць звязаных з эміграцыяй пытанняў. Прызначаецца для спецыялістаў па гісторыі Беларусі, навучэнцаў ВНУ, а таксама для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй.




**Пракаповіч Ігар. Пошукі забытага шляху. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 60 с.**

У новай кнізе пісьменніка і краязнаўцы Ігара Пракаповіча расказваецца пра аўтарскую гіпотэзу старадаўняга воднага шляху, які праходзіў праз рэкі Дзвіна, Дзісна, Мядзелка, Нарачанка, Вілія і сістэму Нарачанскіх азёр. Прыводзяцца гістарычная доказы яго існавання, апісваецца школьная экспедыцыя па вывучэнні волакаў на водападзеле ля азёр Мядзел і Мястра, падаюцца звесткі пра цікавыя мясціны на маршруце. Кніга будзе цікавай і карыснай вучням, настаўнікам, турыстам, краязнаўцам – усім тым, хто любіць вандраваць і адкрываць таямніцы роднай зямлі.




**Пракаповіч Ігар. За смугою мінулых часоў: старажытная гісторыя і археалагічныя помнікі Пастаўскага краю. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 112 с.**

У кнізе прадстаўлена старажытная гісторыя Пастаўшчыны з каталогамі-апісаннямі ўсіх выяўленых на сёння археалагічных помнікаў, якія падзелены на групы: гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі, капішчы. Значная частка гістарычных помнікаў адкрытая вучнямі – удзельнікамі навуковага краязнаўчага таварыства «Ювента», кіраўніком якога з'яўляецца аўтар кнігі. Выданне будзе карысным для вучняў, настаўнікаў, турыстаў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.




**Пракаповіч Ігар. Парфорснае паляванне ў Паставах. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 44 с.**

Паставы на працягу свайго існавання былі невялічкім гарадком, мястэчкам, якое рэдка аказвалася ў гушчыні вялікіх падзей і здарэнняў. Таму жыццёвыя дарогі знакамітых асоб – людзей, што раскручвалі спіраль гісторыі, звычайна праходзілі далёка ад тутэйшых мясцін. Але былі часы, калі па пастаўскіх вуліцах шпацыравалі персоны, імёны якіх ведае або чуў калі-небудзь любы адукаваны чалавек. Вялікі князь, генерал, унук расійскага імператара Мікалая І Мікалай Мікалаевіч Раманаў; вядомы палкаводзец, расійскі, савецкі генерал-ад'ютант Аляксей Аляксеевіч Брусілаў; расійскі, савецкі ваенны дзеяч, дыпламат, пісьменнік генерал-лейтэнант Аляксей Аляксеевіч Ігнацьеў; белагвардзейскі казачы атаман, князь, палітычны дзеяч, пісьменнік Пётр Мікалаевіч Красноў; прэзідэнт і фельдмаршал Фінляндыі Карл Густаў Манергейм... Якім чынам гэтыя вядомыя людзі трапілі ў Паставы і чаму ў іх біяграфіях ёсць старонкі пра наш горад? Пра парфорснае паляванне і лёс яго ўдзельнікаў апавядаецца ў новай кнізе краязнаўцы.




**Чыгрын Сяргей. Альбярцін: гісторыка-краязнаўчы нарыс. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 79 с.**

Новая кніга Сяргея Чыгрына знаёміць чытачоў з цікавай і своеасаблівай гісторыяй былога мястэчка каля Слоніма – Альбярцін. Кніга знаёміць з выбітнымі асобамі, што нарадзіліся ў Альбярціне (генералам-лейтэнантам інжынерных войск і заўзятым беларускім краязнаўцам Яўгенам Леашэнем, маршалкам Сейма Польшчы Мікалаем Казакевічам), а таксама яго помнікамі архітэктуры і прыроды. Сярод іх – сядзіба Пуслоўскіх, дзе да нашага часу захаваліся палац, стайня, флігелі, акружаныя вялікім паркам. Побач знаходзіцца возера са сціплым вадаспадам. Далей пачынаецца лес. Кіламетры за чатыры ад маёнтка Пуслоўскіх у лесе можна ўбачыць яшчэ адзін помнік прыроды – расколаты камень-валун. Кніга будзе карыснай усім, хто цікавіцца мінуўшчынай роднага краю.




**Санько Зміцер. Асобы, якія тварылі гісторыю: кароткі праваднік. – Вільня: Наша Будучыня, 2011. – 16 с.**

Увазе шырокага кола чытачоў прапануецца кароткі персанізаваны агляд беларускай гісторыі, які абымае час ад першага згадвання нашага краю ў старажытных летапісах да моманту аднаўлення дзяржаўнасці ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя.




**Іверс Анатоль. Аўсяныя росы: вершы, успаміны. Укладанне і прадмова С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 291 с.**

У кнігу старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) (1912–1999) увайшлі выбраныя вершы і ўспаміны, напісаныя ім на працягу шматгадовай літаратурнай дзейнасці. «У Слоніме ў доме № 8 на вуліцы Дабрыяна цяпер жывуць іншыя людзі. Я стараюся ў тым раёне бываць рэдка. Бо калі праходжу каля хаты, дзе жыў паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) са сваёй жонкаю Нінай Паўлаўнай, сэрца пачынае шчымець ад таго, што ўжо няма гэтага сціплага чалавека і цікавага паэта. Яго не стала ў кастрычніку 1999 года, а крыху раней памерла Ніна Паўлаўна. Гэты аднатомнік – даніна яго светлай памяці і сустрэча з новым пакаленнем чытачоў», – піша С. Чыгрын у прадмове да выдання.




**Адзін дзень палітвязьня 2009–2011. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. – 328 с.: іл.**

Кніга храналагічна і тэматычна працягвае папярэдняе выданне серыі – «Адзін дзень палітвязьня» (2009), у якім даваліся партрэты апанентаў аўтарытарнага рэжыму, што былі зняволеныя ў Беларусі ў 1996–2008 гады.




**Тамковіч Аляксандр. Без палітыкі. – Смаленск: Смоленская городская типография, 2011. – 156 с.: іл.**

«Мы прывыклі бачыць гэтых людзей на барыкадах. Між тым яны жывуць не толькі палітыкай. Прапаную паглядзець на іх праз новы ракурс, які складаецца з амаль невядомых грамадству хобі і захапленняў, а таксама некаторых эпізодаў асабістага жыцця», – піша аўтар у прадмове да выдання.




**Успаміны Крыштафа Завішы, ваяводы мінскага (1666–1721): выд. з арыгінальнага рукапісу з заўв. Ю. Барташэвіча. Перакл. з польск., заўв. В. Хурсіка. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2011. – 452 с.**

«Успаміны Крыштафа Завішы» – выдатны гістарычны помнік з жыцця палякаў, рускіх, украінцаў і беларусаў на мяжы XVII-XVIII стагоддзяў. Ён пакінуты нам мінскім ваяводам, чачэрскім і браслаўскім старостам, трымальнікам Бярдзічава Крыштафам Завішам. Ваенныя і палітычныя падзеі, жыццё і інтрыгі каралёў, чыноўнай знаці суседзяцца ў ім з апісаннямі палявання на мядзведзяў, хатнімі замалёўкамі, пералікамі розных людскіх няшчасцяў і радасцяў. Сам аўтар паспеў паваяваць на баку шведаў, але гэтак жа ласкава быў прыняты ў Слуцку і Пятром І. У кнізе змешчаны радавод Завішаў.




**Папко Вольга. Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX–XX стст. – 2-е выданне, папраўленае і дапрацаванае. – Брэст: Альтернатива, 2011. – 248 с., [12] л. фат.**

Манаграфія прысвечаная гісторыі шляхцецкага роду Дзяконскіх, лёс якога быў цесна звязаны з Брэстчынай. На аснове сабранага ў архівах і бібліятэках Беларусі і Польшчы матэрыялу прадстаўлены эканамічны, палітычны і культурны аспекты дзейнасці многіх прадстаўнікоў гэтага роду. Аўтар упершыню вывучае дзве галіны гэтага роду, якія называе «пятровіцкай» і «галінай Яна Валынца». У кнізе прыведзены цэлы комплекс дакументаў па гісторыі роду і маёнткаў, якія належалі яго прадстаўнікам. Аўтарам складзены генеалагічныя табліцы дзвюх галін роду Дзяконскіх, а таксама іх родзічаў – Кернажыцкіх, Тарасовічаў і Бяртольдзі. У кнізе прадстаўлены шматлікія старажытныя і сучасныя здымкі сядзіб, партрэты прадстаўнікоў роду, іх родзічаў і людзей, якія мелі да іх дачыненне.




**Паляшчук Н. В. Беларуская мова: азначэнні, правілы, схемы і табліцы. – Мінск: «Радыёла-плюс», 2011. – 96 с.**

Змешчаныя ў кнізе матэрыялы спрыяюць засваенню праграмы па беларускай мове ў пачатковай школе. Адрасуецца вучням пачатковых класаў як дадатковая крыніца ведаў, як дапаможнік у самастойнай падрыхтоўцы да ўрокаў па беларускай мове. Кніга будзе карысная для вучняў сярэдніх класаў, а таксама настаўнікаў.




**Баршчэўскі Лявон. Беларуска-польскі размоўнік-даведнік. Прадм. Л. Шарэпкі. – Мінск: Радыёла-плюс: ІП Сіўчыкаў Ул. М., 2011. – 180 с.: фат. – (Серыя «Беларускія ЕўраРазмоўнікі»)**

Беларуска-польскі размоўнік-даведнік прызначаецца найперш тым, хто выязджае ў Польшчу ў камандзіроўку, на адпачынак, турыстам. Ён мае адметную структуру: можа не толькі дапамагчы карыстальнікам, якія ўпершыню сутыкнуліся з польскай мовай і з польскімі рэаліямі, але і адначасова зацікавіць іх у лепшым засваенні мовы суседняга народа, звязанага з беларусамі агульнымі гістарычнымі каранямі. Дзеля гэтага ў склад кнігі ўключаны практычны граматычны даведнік, асновай якога паслужыла падрыхтаваная тым жа аўтарам і выдадзеная ў 2008 г. «Кароткая граматыка польскай мовы». Раздзелы размоўніка забяспечаны тэматычнымі слоўнічкамі. У кнізе таксама змешчана актуальная інфармацыя пра самыя важныя турыстычныя аб'екты на тэрыторыі Польшчы. Утрымлівае размоўнік-даведнік і практычную транскрыпцыю.

# Славутыя імёны...

**Славутыя імёны Бацькаўшчыны: Зборнік. Вып. 2. Уклад. У. Гілеп і інш.; Рэдкал.: А. Грыцкевіч (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БФК, 2003. – 384 с.**

Зборнік складаецца з навуковых даследаванняў жыццёвага і творчага шляху тых дзяржаўных, палітычных, грамадскіх, ваенных дзеячаў, мецэнатаў, дзеячаў культуры, навукі, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі, а таксама вылучыліся сваім талентам і здольнасцю ў іншых краінах, але да гэтага часу малавядомыя або зусім невядомыя на радзіме. Сярод іх: Тамаш Маслоўскі, беларускі гравёр, мастак і картограф, які стварыў карты Вялікага Княства Літоўскага 1603 і 1613 гг.; Віктар Отан Каліноўскі, старэйшы брат вядомага кіраўніка паўстання 1863–1864 гг.; Соф'я Кавалеўская, першая ў свеце жанчына-прафесар; Аляксандр Рыпінскі, паэт, фалькларыст і кнігавыдавец; Казімір Чарноўскі, адзін з вынаходнікаў падводнага карабля і інш.

Выданне разлічанае на навукоўцаў, выкладчыкаў навучальных устаноў, школ, студэнтаў, а таксама аматараў беларускай даўніны.

Набыць гэтую кнігу можна ў «Беларускім фондзе культуры», які знаходзіцца па адрасе: г. Мінск, вул. Траецкая набярэжная, 6 (побач з кнігарняй «Вянок»), тэл. 334-42-03, 283-28-24.




# «Трэба ўмець быць удзячнымі»

(Пачатак на стар. 1)

Я гадаваўся ў Жодзіне, у якім на той час былі чатыры помнікі: Пятру Купрыянаву, Маці-патрыётцы і два помнікі Леніну. Як бачым, быў перагін у адзін бок, і для раўнавагі да помнікаў савецкіх трэба дадаць памяткі часоў больш даўніх.

Я паспрабаваў бы давесці апанентам, што любую гістарычную постаць нельга ацэньваць адназначна. І сёння Сталін для адных – будаўнік індустрыяльнай дзяржавы і пераможца фашызму, а для іншых – кат, тыран і дыктатар. Жодзінскім чыноўнікам я параіў бы з'ездзіць у суседні Барысаў, дзе ўжо стаіць помнік князю Барысу Усяслававічу.

Трэба ўмець быць удзячнымі. Багуслаў Радзівіл заснаваў наш горад. Хіба гэтага мала? Нават калі бацька не найлепшы, дзеці павінны заставацца ўдзячнымі за тое, што ён падарыў ім жыццё. А меркантыльныя моманты таксама будуць. Напрыклад, Жодзіна – пабрацім французскага горада Венісье. Дык можа, французам будзе цікавей даведацца пра Радзівіла, які знаўся з еўрапейскімі манархамі, і агледзець помнік яму, чым адзін з трох, усталяваных у гонар Пятра Купрыянава? Можа, менавіта там будуць шчоўкаць затворы фотаапаратаў і стракатаць кінакамеры замежных турыстаў?

**– Чытачы ведаюць Вас як пісьменніка і выдаўца. Раскажыце, калі ласка, нашым чытачам, што ў найбліжэйшых Вашых творчых і выдавецкіх планах, над чым Вы цяпер працуеце.**

– Упэўнены, што многія мае калегі лічаць: дзяліцца планамі – справа няўдзячная і рызыкоўная. Скажу толькі, што пішуцца проза, публіцыстыка і падарожныя нататкі. Час ад часу збіраецца напісанае пад кніжнымі вокладкамі.

А выдавецкай візітоўкаю напэўна трэба лічыць сёння серыю «Беларускія ЕўраГраматыкі», якая доўжыцца больш за тры гады. Унікальная падборка кніжак – граматыкі розных моваў, вытлумачаныя па-беларуску. Ужо пабачылі свет граматыкі дзевяці еўрапейскіх моў. На чарзе – яшчэ два дзясяткі выданняў, найхутчэй нямецкая, украінская, фінская, партугальская.

Гэта цалкам лагічна, бо 2008 год у нас прайшоў пад пэўным лінгвістычным знакам. Пачаўся ён з выдання «Еўраслоўніка», складзенага шаноўным Лявонам Баршчэўскім. Слоўнік мае падзагаловак – пастараюся вымавіць на адным уздыху – «Беларуска-лацінска-ангельска-балгарска-венгерска-грэцка-дацка-ірландска-ісландска-іспанска-італьянска-латышска-літоўска-мальтыйска-нарвежска-нідэрландска-нямецка-партугальска-польска-румынска-славацка-славенска-фінска-французска-харвацка-чэшска-шведска-эстонскі слоўнік». У пэўнай ступені наша новая серыя «Беларускія ЕўраГраматыкі» ёсць працягам гэтага слоўніка – ён нібыта рассыпаецца на два ці тры дзясяткі асобных моваў, і недзе на 100 старонках коратка вытлумачваецца граматыка той ці іншай мовы.

На жаль, чыноўнікі не зацікаўленыя, каб замежныя мовы ў нас вучылі менавіта па-беларуску. Пры сустрэчах яны надзімаюць шчокі, ухваляюць, кажуць правільныя словы, а насамрэч ні Міністэрства культуры, ні Міністэрства замежных спраў, ні камітэт па культуры пры ЮНЕСКА ані пальцам не варухнулі, каб паспрыяць нашай ініцыятыве. Думаю, усведамляюць, што праект наш не толькі адукацыйна-культурніцкі, але і геапалітычны. Можа, таму і ставяцца дзяржчыноўнікі ад адукацыі і культуры да замяшчэння беларускамоўнымі падручнікамі па розных навуковых дысцыплінах як да непатрэбнага галаўнога болю і небяспекі пацярпець за заўчасную ініцыятыву. І як Вы мяркуеце, ці ўзрадаваўся б расійскі пасол Сурыкаў, калі б пабачыў «Кароткую граматыку расійскай мовы» па-беларуску?

Выкладчыкі-лінгвісты і з маёй alma mater, з Белдзяржуніверсітэта, і з іншых навучальных устаноў наракаюць, што не стае падручнікаў і дапаможнікаў па многіх мовах. Яны і гатовыя былі б праводзіць семінары ці адкрываць новыя кірункі, але ж няма па чым вучыць. Так што і аматары рэдкіх моваў будуць усцешаныя, спадзяюся, прычакаюць калісьці граматыкі мальтыйскай і нават валійскай мовы…

Але скажу тут, што і нашы больш блізкія суседзі могуць пацешыцца – апошнім часам у новай серыі пабачылі свет «Беларуска-славацкі размоўнік-даведнік» і «Беларуска-польскі размоўнік-даведнік».

**– Вы бываеце на замежных семінарах выдаўцоў, кніжных выставах, прэзентацыях кніг. Што даюць Вам асабіста і іншым выдаўцам гэтыя сустрэчы? У друку паведамлялася, што ёсць намер стварыць Асацыяцыю беларускіх незалежных кнігавыдаўцоў. Наколькі наспела, на Вашу думку, з'яўленне такога аб'яднання?**

– Па-першае, хацелася б бываць там часцей. Па-другое, дораць яны незаменны вопыт, мажлівасць не набіваць сабе гузакі, не вынаходзіць нанова ровар. Паверце, ёсць нямала момантаў (па распаўсюдзе, па рэалізацыі кніжнай прадукцыі і інш.), дзе нашы еўрапейскія калегі значна нас апярэджваюць.

А што да Асацыяцыі, пра якую Вы згадалі, дык нават сам факт з'яўлення ініцыятыўнай групы сведчыць пра яе актуальнасць і запатрабаванасць.

*Фота Віталя Гіля.*

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Барадулін Рыгор. Толькі б яўрэі былі!..: кніга павагі і сяброўства. Склад. Н. Давыдзенка, прадм. В. Нікіфаровіча; заўв. І. Сляповіча. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 244 с.**

Кнігу народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна склалі эсэ, артыкулы і ўспаміны пра вядомых дзеячаў яўрэйскай культуры, пераклады паэзіі Х.-Н.Бяліка, М. Надзіра, М. Шагала, І. Харыка, Х. Мальцінскага, Р. Рэлеса і многія інш., якія нарадзіліся і жылі ў нашай краіне. Унікальны апошні раздзел зборніка. У ім вершы і дарчыя надпісы, большасць з якіх друкуецца ўпершыню, творцам, блізкім сябрам і калегам – А. Дракахрусту, Н. Кісліку, Я. і М. Серперам, В. Нікіфаровічу, Б. Забораву, Д. Сімановічу і інш., а таксама вершы, прысвечаныя яўрэйскім святыням.




**Лукашук Аляксандр. Сьлед матылька. Освальд у Менску. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. – 390 с.: іл.**

Падрабязная гісторыя двух гадоў жыцця ў Мінску Лі Харві Освальда – амерыканскага грамадзяніна, які стаў забойцам 35-га прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі і за якім «дзень і ноч сочыць вока і вуха дзяржбяспекі», заснаваная на ўнікальных фактах і дакументах, сабраных аўтарам Аляксандрам Лукашуком. У беларускім друку яшчэ не было падобных даследаванняў, прысвечаных падзеям нядаўняй гісторыі. Жыхарам Мінска яно будзе цікавым яшчэ і як дакументальнае падарожжа ў беларускую сталіцу 1960-х гадоў. Кніга цудоўна аформленая мастаком і дызайнерам Генадзем Мацурам.




**Максімюк Ян. Словы ў голым полі: беларуская літаратура 1990-х у снах, успамінах і фотаздымках. – Мінск, Логвінаў, 2011. – 224 с. – (Галерэя «Б»).**

Ян Максімюк вядомы ў Беларусі найперш як аўтар перакладу «Уліса» Джэймса Джойса і журналіст Радыё Свабода. Большасць тэкстаў гэтай кнігі – адметных і запамінальных – знаёмыя беларускім чытачам па публікацыях у розных выданнях, і ў іх аўтар паўстае ў новым абліччы, як удумлівы назіральнік, «сведка і суўдзельнік» тых літаратурных працэсаў, «буйства формы і зместаў», што адбываліся ў Беларусі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Жанр кнігі Ігар Бабкоў у прадмове акрэслівае як «крытычныя ўспаміны пра эпоху», што азначае «аўтар распавядае пра сваё асабістае падарожжа па часе і прасторы, але ўсё, з чым ён сустракаецца ў сваім падарожжы, значна большае і істотнае, чым проста асабістае».

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65

**«Кнігарня «Наша Ніва»,**
e-mail: alaksandradynko@gmail.com,
тэл.: +375 29 872 26 35



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 12 снежань, 2011
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 12, 12.12.2011.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, 220030, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com